# У ІМЯ ПРАЎДЫ

Аднаднёўка

Вільня, Сьнежань 1930 г.


## АД РЭДАКЦЫІ.

Калі была выпушчана аднаднёўка „Проч з ліхазельлем!“, дык магчыма, што некаторыя асобы асудзілі яе за непрызваітасьць тону. З гэтым можна было б згадзіцца. Але выпуск яе тым большую выклікае веру, а разам з ёй і сум, у праўдзівасьць яе зьместу. Бо ж прайшло каля поўгоду і пакуль што ня было ані апраўяржэньняў пададзеных у аднаднёўцы фактаў, ані пацягнута да адказнасьці яе рэдактара. А гэта выразна сьведчыць аб тым, што ані апраўергаць, ані пераносіць гэтую справу ў суд для кіраўніцтва віленскай кансысторыі нявыгадна і небясьпечна, дзеля таго, каб ня выйшла на верх яшчэ больш бруду з дзейнасьці яе сяброў і асобаў злучаных з німі. Кансысторская газэта „Наша Жизнь“ нічога не адказала, а толькі бэсьціла старшыню ЦБП Камітэту Вярнікоўскага.

Ніжэй пададзеныя факты хай яшчэ больш дакладна выявяць перад грамадзянствам аблічча тых, хто кіруе Віленск. Эпархіей.

## Архіяпіскап Хвядос.

Супроць пастановы Эпархіяльнага зьезду прадаў з Кушнёвым эпархіяльны архірэйскі дом быццам за 10.000 доляраў, які сапраўды быў варты ня менш чым 25.000 доляраў. Аднак і гэтыя 10.000 дол. няма ведама куды пайшлі! Ці толькі не на маёнтак, які прыдбаў сябе Хвядос у Пазнані. Каб ніхто з праваслаўных сьвяшчэньнікаў ня служыў у віленскай царкве на Антокалі, Хвядос трымаў ключы ад гэнае царквы ў сябе, а пасьля аддаў іх паліцыянту, прадаўшы гэткім чынам царкву гэтую каталіком. У адказ на пастанову Эпархіяльнага зьезду бараніць гэтую царкву Хвядос напісаў: „делается все, что нужно“.

Ведама ўсім як Хвядос кляўся і падпісаў прысягу на Кіеўскім Саборы ў Сынодальнай Палаце Кіевапячэрскай Лаўры на вернасьць Патрыярху Ціхану, а пасьля зьмяніў і сваёй клятве і Патрыярху Ціхану.

Забараніў разглядаць справу абкрадзэньня Кушнёвым Эпархіяльнага складу баючыся, каб Кушнёў ня выдаў таго, што рабіў гэта ўсё са згоды Хвядоса.

Загнаў з дапамогай сваёй кансысторыі прат. Гапановіча, які ня мог згадзіцца з хабарствам, у вунію, ды ня толькі яго, але і шмат іншых загнаў і заганяе.

Разам з грам. Вярнікоўскім стварыў Цэнтр. Беларускі Прав. Камітэт, але пад націскам „пэўных“ адзінак, каторыя імкнуцца да развалу Праваслаў'я, адмовіўся ад гэтага, адыйшоў ад гэтага.

Калі ў Глыбоцкім благачыньні асьвяшчалі адабраную назад ад вуніятаў царкву, Хвядос паслаў урадоўца кансысторыі Леканта з загадам, каб духавенства не рабіла ніякіх урачыстасьцяў „чтобы не дразніть іноверцев“. З тэй-жа мэтай забараніў на першы дзень Вялікадня ў працягу дня дзваніць у калакалы ў Духавым манастыры.

Распладзіў гэткае хабарства, што ў 1924 г. сэкрэтар кансысторыі, родны пляменьнік Хвядоса, Бакалінскі, ня бачучы іншага выхаду—за хабары, як другія гады вастрогу,—павесіўся! Сяньня хабарніцтва яшчэ больш павялічылася. У кансысторыі служыць пляменьніца Хвядоса—жонка Бакалінскага і разам з Кушнёвым, Піліпам і Тучэмскім „працуе“ яшчэ лепш.

Зьняважаны і зьняважаецца Хвядосам і яго кансысторскай хэўрай а таксама некаторымі манахамі старадаўняя сьвятыня беларусаў—Духаў Манастыр, бо з прычыны пражываньня ў ім Хвядоса выбіваюцца вокны, мажуцца дзёгцям і смалой брама, сьценкі і г. д., а ў манастыры знаходзяць прытулак прадажныя кабеты, з якімі ладзяцца там оргіі і райскія ночы.

Хвядос дэманстратыўна падтрымоўвае амаральнікаў і алкаголікаў сьвяшчэннікаў, якія толькі ідуць за ім, напр.: сьв. сьв. Ляхнікевіча, Дм. Сурвіллу, Марозава (з Маладэчна), Вошчэнку і інш. Да Вошчэнкі (таго, каторы напіўшыся да бязпамяцтва валіцца падчас выхаду з сьв. Дарамі!!!) нават выежджае ў гасьціну, дзе пражывае па 3—2 тыдні, а калі і ў яго прысутнасьці Вошчэнка напіваецца да белае гарачкі, дык Хвядос тлумачыць гэта хваробай. П'янства і амаральнасьць сьв. сьв. Ляхнікевіча і Сурвіллы не маглі зьнесьці нават цывільныя ўлады, лічачы гэта гангрэнай грамадзянства і пастанавілі пазбавіць іх на абшары Віленскага Ваяводзтва якіх-небудзь пасадаў. Як сьв. Морозаў п'яны ганяецца за прадажнымі кабетамі па маладэчне і як сьв. Александр Беляеў у Вільні у кальварыйскай царкве падчас літургіі, да таго ўжо а іўшыся, рыгае і брудзіць прастол і аўтар пісаць шмат ня будзем.

Скажам толькі дзесяткі сьвяшчэньнікаў у сотні выпадкаў прафануюць ня толькі Праваслаў'е але на'т Хрысьціянства а Хвядос ім ўсё даруе, зьвязаны з німі не адным праступствам.

# Рэктар Сэмінарыі Тучэмскі.

Акрадае інтэрнат сэмінарыі. Згодна з перасланымі ў Куратор'юм і да Ўладаў судовых асьведчаньняў сьведкаў Тучэмскі: 1) кожны месяц „эканоміў“ на інтэрнаце прыблізна 1500 зл. 2) Браў у папярэднія гады па 5 зл. з кожнага вучня на рамонт інтэрнату ў той час, калі ўсе рахункі па рамонту аплачваліся на атпушчаныя ўрадам сумы. 3) Расьпіскі на атрыманьне сэмінарыстамі стыпэндыяў адбіраліся ад іх па два і тры разы і пры тым куды на вялікшыя сумы, чым сапраўды даваліся вучням. 4) Дастаўшчыкоў змушаў даваць чыстыя рахункі з подпісамі а пасьля сам перад подпісамі выстаўляў сумы якія хацеў. 5) Ладзіць балі на імяніны на рахунак інтэрнату. 6) Карыстаецца інтэрнацкім апалам і сьвятлом. 7) У 1926-7 вуч. годзе Міністэрствам былі атпушчаны сумы на стыпэндыі. Бышым сэкратаром Сэмінарыі а цяпер Кансысторыі, Сьняжынскім была ўложана ведамасьць на выдачу стыпэндыяў і прымусова ад вучняў былі адабраны распіскі ў атрыманьні стыпэндыяў, калі сапраўды нікому грошы ня былі выданы. 8) Рахункі на мыцьцё бялізны пісаліся гэткім чынам, быццам вучні ў адзін тыдзень давалі мыць па 3—5 пар бялізны а сапраўды яны давалі толькі па аднэй пары. Квітанцыйныя кніжкі на здачу бялізны, дзеля зацёрця сьлядоў зьнішчаны. Вучні, якія вялі гэтыя кніжкі і якія па загаду аканома дапамагалі яму пісаць фальшывыя рахункі нам вядомы. 9) Прадукты ўзятыя ў адным склепе ўпісываліся ў іншыя рахункі, а часта ў рахункі ўпісываліся прадукты, якія зусім ня купляліся. 10) Выпісываліся ў расход грошы за рэчы, якія зусім ня купляліся, напр. 48 зл. у расх. ст № 78 11) З 1926 г. па 1929 г. выпісывалася што дня на вучняў 1/4 кл. гарбаты, сяньня калі справу надужыцьцяў зробленых праз Тучэмскага парушылі Улады судовыя выпісваецца ўсяго толькі 1/32 кіля, г. зн. у 8 разоў меней. 12) Адны і тыя прадукты загадываў вучням запісываць на прыход па чатыры разы. 13) Кватэра Тучэмскага рэмантуецца на кошт інтэрната, таксама кватэры яго знаёмых. 14) За разьбітыя шкла ў вокнах сьцягваецца з сэмінарыстаў па 5—10 зл. а шкла ўстаўляюцца на сумы ўрадовыя. 15) Да сёлеташняга году за інтэрнат бралася 65 зл. ад кожнага вучня і апроч таго Ўладамі выдаваліся сумы на сьвятло, апал і службу. Цяпер бярэцца толькі 50 зл. і за гэтаю суму Тучэмскі аплочвае і апал, і сьвятло і пажыў вучняў куды лепшы зрабіўся. 16) Прадстаўніком контролі знойдзены ў канцэлярыі Тучэмскага штампялі асобаў, каторыя звычайна як „свае людзі“ падпісвалі ўсялякія патрэбныя Тучэмскаму „рахуначкі“. Асобы гэтыя бляхар Пунскі і прачкар Ражбіцкі. 17) Надужыцьця зробленыя Тучэмскім на шкоду Скарбу Гаспадарства і бацькоў вучняў сягаюць у прыблізна-мінімальным абліччэньні 100,000 зл.

Справа аб усім гэтым знаходзіцца ў пракуратарскіх Уладаў. Віну за ўсё гэта маніўся Тучэмскі зваліць на гаспадыню інтэрната, роля якой—рабіць тое, што ёй загадае Тучэмскі, і стоража Піпчэнку, якога быў звольніў аднак Куратор'юм на гэта не згадзілася. Цяпер запалохівае Тучэмскі вучняў сваіх звальненьнем з сэмінарыі, недапушчэньнем да матуры і г. д. і вымагае гэтым падпісываць розныя сумы на 100—150 зл. якіх вучні і ў вачох ня бачылі. Гэткімі спосабамі змушае вучняў гаварыць на карысьць яго ў судзьдзі сьледчага. Дзеля безстароньняга высьвятленьня гэтае справы належалася-бы Тучэмскага неадкладна звольніць з становішча рэктара.

Вымагае ад старэйшых сэмінарыстаў, каб тыя жаніліся на тых „паненках“ якія ён радзіць. Калі хто ня слухае—не дапушчае да матуры. Аднаго дзіякана, а слухаўшагася рэктара адносна прапанаванай жонкі, зрэзаў на матуры і толькі дзякуючы прадстаўніку Куратор'юма дзіякан той матуру атрымаў. Жыў гэты дзіякан без пасады два гады а на просьбу аб пасадзе Тучэмскі як сябра Кансысторыі казаў яму—„можеж ити в унію!“ „Архіерэем меня не пугай, он всё знает!“ „Можэж ити и мести уліцу!“ Ад гэтага дзіякана, калі ён быў вучням, Тучэмскі браў расьпіскі на сто зл. а выдаваў яму 50 зл. Тое самае рабіў з старым ледзь ходзячым іеромонахам. б. духаўніком Сэмінарыі. А каб тыя не скардзіліся Тучэмскі казаў (тэкст дасло ўны): „если ты пойдзеш к белоруссам жаловатся, я тебя в бараний рог согну!“

Жонка Тучэмскага даходзіць да гэткіх рэчаў з вучнямі, што нават старэйшыя вучні на ўспамін жонкі Тучэмскага чырванеюць і плююць з агідай. Аб тым, якія яна робіць наскокі эротычныя на сэмінарыстаў маглі-бы расказаць Гурыновіч і Філіповіч, якіх Тучэмскі загнаў на каталіцкую тэолёгію, аб гэтым і іншым падамо ў наступным нумары. Вось у якіх варунках ўзгадоўваецца будучы пастыр, які наглядае гэткае балота ад першай клясы! Не сэмінарыя гэта а школа бязьверра і камунізму. Ніякія ўплывы камуністычныя ня зробяць таго, што Тучэмскі з сваёй жонкай праз сваю агідную работу калечучы маладыя душы.

# Кушнёў.

Некалісь гандляваў коньмі з цыганамі, якія яму і выбілі за ашуканства вока. Праз нейкі час абабраў да ніткі паспавядаўшы перад сьмерцю аднаго сьвяшчэньніка, памёршага без радні. Дачка гэтага сьвяшчэньніка, сяньня ўдава па сьвяшчэньніку з Вільні яшчэ і цяпер яго кляне! Гэта быў пачатак кар'еры! Пасьля распачаў гандляваць Эпархіяльнымі царкоўнымі рэчамі. За ашуканства б. кіраўніка складам Доўгаполенкі, апошні публічна ў аўтобусе плюе Кушнёву ў твар, які толькі аблізываецца. Дачка Доўгаполенкі паміраючы апошнім дыхам праклінае Кушнёва. Пасьля ліквідуе ён Эпархіяльны склад з такім пасьпехам, што дачыста абкрадывае яго. Справа трапляе да пракуратара. Хвядос яе запыняе. Прадае зямлю Нікалаеўскае царквы ў Вільні. Ашуківае як сваіх так і чужых. Купляе Хвядосу гадзіньнікі за прымусова спагнаныя з духавенства грошы і рахункі выстаўляе ў двая даражэй, чым сапраўды каштуюць. Ашуківае тэх. Васютовіча на тысячу зл. і трапляе пад суд. Таргуе пасадамі і прыходамі і гэта толькі ў цьвёрдай валюце, як прыклад—за Галубіцкі прыход ад мала пісьменнага сьвяшч. Зубовіча бярэ 100 руб. золатам. Дзякам за 300—500 зл. выробляе сьвяшчэнства. За добрую заплату благачынным робіць бальшавіцкага камісара Спрогіса. П'янствуе і распусьнічае з „кабе'амі“ разам з Тучэмскім і Марозавым па рэстаўрацыях.

Фальшуе афіцыяльныя паперы, як напр,: перамешчае сьвяшчэньніка з лепшага прыходу на горшы, бяручы цьвёрдай валютай за лепшы прыход, а перамяшчэньне сьвяшчэнніка на горшы прыход матывуе ў афіцыяльнай паперы загадам гэтага міністэрствам.

Перад расейцамі лае палякоў і беларусаў, перад палякамі — расейцаў і беларусаў, перад беларусамі—палякоў і расейцаў! Сьпісаньне ўсяе „работы" Кушнёва занялобы некалькі томаў.

## Піліп Марозаў.

Ламаў яшчэ ня гэтак даўно замкі ў Беларускай гімназіі. Абакраў фундамэнтальную бібліатэку Духоўнай сэмінарыі і гэта ўсё так умела, што пазайздравалаўбы яму ў гэтым не адзін прафэсыянал ад гэтае „работы". Пераходзіць у вунію, думаючы што там атрымае архірэйства. Аднак Вунія стаяла за высака як на яго! Райскія ночы ў Быкавай на кватэры, ночы, калі запрашалася „паненачак", і пасьля разьбіралася ўсё да гола і гулялася, папіваючы, да раніцы — хутка скончыліся. Быкова пагнала яго за гэтую распусту з кватэры. Тое самае пагаражала яму з боку айцоў вуніі. Абкрадае тады Андрэяўскую царкву і пераходзіць ізноў у праваслаў'е. Пры помачы паліцыі абкрадзенае ізноў вяртаецца Андрэяўскай Царкве. Хвядос, як свой чалавек, робіць яго місыянэрам Віл. Эпархіі і сябрам Кансысторыі. А што сам Хвядос калісь яго выклінаў дык ці-ж на гэта зьвяртаць увагу? Ізноў пайшлі гулянкі. Як сябра Кансысторыі Піліп змушае сьвяшчэньніка прыяжджаць у Вільню, прадаўшы перад тым карову і зноў ладзіць райскія ночы. Часта можна спаткаць Піліпа ў кнайпе з „дзевачкай" на каленах укруціўшуюся ў яго расу і ўзьдзеўшую яго крыж. Папіўкі гэткія, за грошы сялянскага духавенства ладзяцца і ў манастыры! Піліп не шануе кабет тады, ён публічна расказвае як за ім яны лётаюць, як і што вырабляе ён з аднэй пратаірэя жонкай (Не падаемо прозьвішча яе— шануючы імя кабеты.) Ня раз Піліп публічна даводзіць усім, што Бога няма што гэта выдумкі і г. д. Настаўляе яго тады адзін з кумпанаў прат. Дзічкоўскі. (Той самы каторы носіць Хвядасу „пабаловатся" віно, каторы, калі выяжджае ці так дзе выходзіць жонка з хаты, робіць у сябе а Ia мар'явіцкую сьвятыню—зьбірае сваіх харыстак і практыкуе з німі тое, што да суду практыкаваў біскуп мар'явітаў, Кавалеўскі!) Прадае Піліп амаль не яўна дакумэнты тайныя Віл. Кансысторыі. На нарады нейкія зьбіраюцца да яго і вуніяты, і бабтысты, і мэтадысты і інш. Словам прадае прыходы! Маніўся яшчэ раз перайсьці ў вунію, аднак яго там няпрынялі. Калі аб гэтым было пададзена ў газэтах Піліп прысягнуў перад Хвядосам што гэта ня праўда, хаця-ж у № 186 газэты „Время" і быў адрукаваны за подпісам падхарунжага Войск Польскіх, ліст, у якім ён публічна сьцьверджывае што Піліп быў у каталіцкага архіяпіскага ў Вільні з просьбай аб прыняцьці яго ізноў у вунію, аднак у гэтым яму было адмоўлена і запрапанавана асабіста зьвярнуцца да Рыму. Падхорунжым зложана адпаведняя паперка Духоўным Уладам з дамаганьнем сьледства, дзе былі-бы пададзены яшчэ сьведкі—аднак справа была спынена клятвапраступнай прысягай Піліпа. Ніхто з дамагаючыхся публічна сьледства ня быў дапрошаны. Чаго Піліп выбіраецца ў Парыж, чаго езьдзіць (ён манах) у мяст. Орле да сьв. Галінкевіча і што там вырабляе—дамо ў наступным нумары! Адно скажам сяньня яму па праву належыць ня мітра і кансысторскае крэсла а стойла для сьвіняў.

## Сьв. Спрогіс.

Аб ім вось што пісалі духоўным Уладам жыхары вёсак Засьценьне і Грэлікі, Вішнеўскае воласьці: „Даводзім да вашага ведама, што благачынным нашага благачыньня назначаны вядомы нашаму павету па сваёй бальшавіцкай рабоце сьв. Янка Спрогіс. Нам добра ведама як ён у 1919 г. адмовіўся ад сана сьвяшчэньніка і дэманстрацыйна ў Вялейскім Іспалкоме ўчыніў заяву, што ён ня хоча абманываць народ ня хоча быць трутням, а хоча быць рабочаю пчалою ў будаваньні савецкае рэспублікі. І гэты чырвоны піонэр—бацюшка, ганіцель сьвятое веры Хрыстовае сяньня стаіць на чале благачыньня. Якая ганьба і стыд для нас праваслаўных Хрысьціян! Як даведаліся аб гэтым праваслаўныя людзі Даўгінаўскага благачыньня, дык абурыліся да глыбі душы, што гэты працаўнік ад бязбожжа атрымаў магчымасьць езьдзіць па нашых царквох і ганіць сьвятыню; каб мы ня ведалі яго працы ў часе бальшавізму, дык гэта ня было-бы так балесна. Цяпер-жа, калі моладзь прасочана бальшавіцкай прапагандай—дык гэта моладзь сьмяецца над намі старымі, што мы веруем у Бога, паказываючы на Спрогіса, як яны разам з ім працавалі і ён адрокся ўсякай рэлігіі, а сяньня ён займае такую высокую пасаду, відаць правасл. Царква дае прытулак камунізму. Паяўленьне Спрогіса ў нашым павеце дае вялікі козыр у рукі штундзе і інш. агітатарам, якія езьдзячы па вёсках Даўгінаўскага благачыньня чытаюць народу паданьне Спрогіса ў Вялейскі Іспалком, у якім ён пісаў, што ня хоча быць сьвяшчэньнікам, абманшчыкам народу, каецца і дэкляруе працаваць на карысьць камуністаў. Агітацыя гэта мае пасьпех дзеля таго, што жыхарам павету ўсё гэта добра ўспамінаецца..." Заява сялян вельмі даўгая, калісь мо яе закончым. І гэткі „пастыр" сяньня благачынным! Як адбываецца гэтае пастырства тлумачыць ужо вышэй напісанае аб ім. Аднак ён у Хвядоса і Кансысторыі лічыцца „прыкладным". Так, свой свайго—ацэніць!

## Урадовец Кансысторыі Бохан.

У Менску служыў у Г. П. У. (за цяпер—нячучаемо!) Нелегальна перабраўся ў Польшчу і зрабіўся спецам па царкоўным справам. Рэвізаваў дзейнасьць Кушнёва па складу і даказаў, што той Эпарх. Склад абакраў, але пасьля таго, як Бохана Кушнёў абазваў жулікам і пачаў націскаць Хвядос, Бохан зрокся сваіх паказаньняў, тлумачучыся, што яго папутаў чорт. Пасьля гэтага Бохан быў „памілаваны". Атрымоўвае грошы і бароніць у слаўнай „Нашай Жизни" Хвядоса і кумпанію. Як падавала газэта „Время" умела крадзе і дагодна прадае зацікаўленым асобам кансысторскія дакумэнты і копіі з іх. Цэласьць яго дзейнасьці є недахопу мейсца сяньня—другі раз падамо.

Нічым ня розьняцца ад сваіх кіраўнікоў усялякія прыслужнікі Хвядоса і Віл. Кансысторыі. Гэткі архім. Саўваці, намесьнік сьв. Духава манастыра, хоць па паходжаньню і беларус і інакш чымся па беларуску і гаварыць не ўмее, таксама як Хвядос і Кансысторыя ненавідзіць ўсё беларускае, апрача іх грошаў, за якія выхоўвае сваіх „племянніков“ (ведама ад якіх сёстраў!) Сыстэматычна абкрадае Духаў Манастыр, прадаючы дарагія абразы (з XVII в.!) і іншыя царкоўныя рэчы. Нядаўна прадаў рызу кутую серабром, створцы сярэбраныя, дарахраніцельніцу, сярэбраныя рамы, абразы старынныя і некалькі кіотаў, усё рэчы якія могуць сяньня ўважацца за рэдкасьць музэальную, і гэта за 600 зл., калі сапраўды гэткія рэчы каштавалі блізу 10,000 зл.

**Урадовец Кансысторыі Лекант**. У 1919 г. абакраў польска-амэрыканскі Камітэт. Цяпер, апроч работы ў Кансысторыі дзе атрымлівае 250—300 зл., бойка гандлюе брылянтамі, праз што атрымаў назоў „брыляншчык“. Разам з Кушнёвым „перахоўвывае“ Кансысторскія грошы“, што дае яму магчымасьць іграць і праігравацъ у розных клюбах у карты за раз па 2.000—3000 зл. Ад часу, калі Ц. Б. Пр. Камітэт пачаў націскаць на Кансысторыю Лекант нагвалт шукае заступніка, каб той пераняў грашовыя справы Кансысторыі, якія дагэтуль вёў Лекант. Відаць „не всё в порядку“.

Ёсьць яшчэ цэлая плеяда духаўнікоў, прыхлеб[illegible]ікаў Кансы тор[illegible]к[illegible], як сьв. Вошчэнка, да якога Хвяд[illegible]с ле[illegible]ам езьдзіць на папас, які напіваецца да таго, што валіцца ў царкве з сьв. Дарамі, як сьв. Кірык, які напіваецца а пасьля лае прыхаджан падчас службы мацернымі словамі, кідаю[illegible]ы ў ніх сякерай, як сьв. Марозаў з Маладэчна, які пье і дэманстрацыйна ганяецца па месьце за публічнымі кабетамі і інш. Усё верныя слугі Хвядоса! Спэцыяльна аб іх мо таксама хутка напішам.

## Падтрыманьне сяброў Кансысторыі

Як ведама духавенства атрымала ад Кансысторыі загад выносіць ёй і Хвядосу спачуцьцё і даверра і лаяць Цэнтр. Бел. Пр. Камітэт. Цяпер яшчэ яскравей асьвятляецца гэтае фальшаваньне і гвалт над сумленьнем духавенства. У большасьці маяцоў зьезды ня склікаліся і зусім! Благачынны разсылаў праз „сваіх людзей“ шаблён (сфабрыкаваны у сотні адбітках) паперу „пастановы“ і вымагаў подпісаў пад ёю. Так сама рабілі і з тымі сьвяшчэньнікамі, якія на зьезд ня прыехалі, калі некаторыя благачынныя сапраўды нейкі зьезд і склікалі.

Ад сьв Сярэбрэньнікава была адабрана падпіска ў начы прысланым благ. Ал. Маеўскім дзяком.

Ад сьв. Уладз. Каранцэвіча адабралі подпіс таксама па загаду благачыннага праз дзяка ў апошнюю хвіліну жыцьця сьв. Карацэвіча, калі ён ужо канаў. Страшна і падумаць! Замест апошнае згоды з Богам і людзьмі згвалцілі і змусілі духаўніка адыйсці ў іншае жыцьцё з ілжою і ненавісьцю да другіх.

Ня гледзячы на гэткія гвалты і тэрор Кансысторыя атрымала ледзь—ледзь 40 прац. усіх магчымых подпісаў ад Духавенства. Вось якім падтрыманьнем карыстаецца Віл. Кансысторыя з боку сваіх падуладных. Ганьба і пазор!!! Барацьба яшчэ толькі разпачалася!!! Што Блажэньнейшы Мітрапаліт Дзіаніс верыць у гэтую падтрымоўку цяжка дапусьціць і падумаць

## Асьведчаньне.

Гэтым група беларускага старэйшага грамадзянства асьвядчае, што ў хуткім часе выдасьць адозву да ўсяго культурнага сьвету і ўсіх Патрыархаў у мовах беларускай, расейскай, францускай, нямецкай і ангельскай, у якой усебакова прадставіць нягодніцтва, прафанацыю і гнільлё Хвядосаў, Тучэмскіх, Кушнёвых, Марозавых Пілінаў і ўсіх тых хто ідзе з імі ці хто гэтаму пасыўна прыглядаецца. Гэтым просім надсылаць усялякія матэр'ялы, дадзеныя аб гэтых і інш. асобах ў Беларускія Праваслаўныя арганізацыі ў Вільні. Беларусы гэта Ваш нацыянальны абавязак!

## Паважаныя Айцы.

Прыведзеныя факты з дзеяльнасьці асобаў кіруючых Віленскай Эпархіяй сьведчаць, што ніякая бязбожная камуністычная прапаганда не падрывае так аўтарытэт духавенства і веру ў Бога, як амаральная і праступная дзейнасьць гэтых асобаў. У гэтым небясьпека ёсьць ня толькі для Праваслаўя, але і наагул для Хрысьціянства. Вы-ж Айцы—Пастыры выказвалі ў сваіх пастановах і пратэстах, праўда пад прымусам і пагрозамі, гэтым асобам спачуцьцё, пашану і даверра, праз што Вы як-бы салідарызуецеся з імі. Ці-ж бы гэта было і сапраўды так? Паважаныя Айцы хай загавора Ваша сумленьне, Вы ўспомніце аб сваіх абавязках перад Богам! Айцы, будзьце больш цьвёрдымі і адхілецеся ад гэтае гнілі!!!

Паважаныя Грамадзяне! Ці [illegible]ам ня сорам за Вашых пастыраў? Ці ня грэх Вам моўчкі глядзець на гэтую брудную работу сваіх духовых павадыроў? Грамадзяне! Чытайце гэтую газэтку на зборках пад царквамі, на рынках, сходках і г. д. і перадавайце яе іншым асобам. Агульным Вашым дамаганьнем павінна быць—зьмена арх. Хвядоса і ўсяго складу Віленскае Кансысторыі, як асобаў, якія разбураюць і прафануюць Сьв. Праваслаўе. Пакуль-жа гэтага не даб'цецеся спыняйце аплаты на Кансысторыю і тым духаўніком, якія Кансысторыю падтрымоўваюць. Тых з духаўнікоў, якія працуюць разам з вамі беражэце, шануйце і любіце!!!

## З апошняй хвіліны.

Хвядос самахвоцы дае прыход аднаму сьвяшчэньніку ў Голдаве. Сьвяшчэньнік прыяжджае ў Вільню за ўказам на перавод, аднак Хвядос яго адсылае, абяцаючы зараз-жа выслаць гэткі ўказ. Баючыся аслухацца свайго архірэя і лічучыся з яго словам сьвяшчэньнік ліквідуе ў старым прыходзе сваю маемасьць і чакае ўказу. Пасьля доўгага чаканьня, ўсё распрадаўшы, едзе той сьвяшч. ізноў у Вільню да архірэя, той загадаў ісьці яму ў Кансысторыю, там наваліваюцца на яго за тое чаму перш да іх не зьвярнуўся інакш—ён скардзіцца хадзіў на іх. Ідзе пасьля гэтага Кушнёў да архірэя; той выклікае сьвяшчэньніка таго і гаворыць: „Да, вы в Голдово не поедете, поедет другой!“ Жыцьцё чалавека разьбіта! Дзе правасудзьдзе! У каторым веку мы жывем?

Рэд.-выд. Я. БЕЛЬСКІ

Друкарня У. Замяроўскага, Квашэльная 23

Wyjątek przetłomaczony identycznie z gazetki białoruskiej:

" W IMIE PRAWDY" Jednodniówka

W grudniu 1930 r.

---

REKTOR SEMINARJUM TUCZEMSKI

Okrada internat Seminarjum. Zgodnie z przesłanemi w Kuratorjum i do władz sądowych oświadczeniami świadków TUCZEMSKI :

1/ Każdy miesiąc "zaoszczędza" z internatu przypuszczalnie 1.500 zł.

2/ Pobierał w poprzednie lata po 5 zł.z każdego ucznia na remont internatu wówczas,gdy wszystkie rachunki za remonty pokrywało państwo.

3/ Pokwitowania za otrzymane przez seminarzystów stypendjów odbierało się od nich po dwa i trzy razy i przytem o wiele większe sumy, niż naprawdę wydawali uczniom.

4/ Firmy zmuszane były dawać czyste rachunki z podpisami,a potem sam wystawiał sumy jakie chciał.

5/ Urządza bale na imieniny na rachunek internatu.

6/ Korzystało się internackim opałem i światłem.

7/ W 1926-7 r.szk.Ministerstwo wydało sumę na stypendja. Były sekretarz Seminarjum,a obecnie Konsystorza,SNIEŻYNSKI,sporządził listę płatniczą o udzieleniu stypendjum i przymusowo od uczni byli wzięte pokwitowania o otrzymaniu stypendjum,lecz wrzeczywistości nikomu pieniądze nie były wydane.

8/ Rachunki na pranie bielizny pisały się takim sposobem,a mianowicie: uczni w jednym tygodniu dawali do prania po 3-5 par bielizny,a wrzeczywistości oni dawali tylko po jednej parze. Kwitarjusze zaś za otrzymaną bieliznę,dla zatarcia śladów zostały zniszczone. Ucznie,którzy prowadzili te książki,i którzy na żądanie intendenta dopomagali mu pisać fałszywe rachunki,nam wiadome.

9/ Produkty wzięte w jednym sklepie,zapisywały się do innych rachunków,a często do rachunków zapisywały się te produkty,które wcale nie były kupowane.

10/ Wypisywały się do rozchodu pieniądze za przedmioty, które wcale nie były nabywane np.48 zł.do rozch.poz.Nr.78.

11/ Od roku 1926 do 1929 wypisywało się co dnia na uczni 1/4 klg. herbaty,a obecnie,gdy sprawa nadużycia uczynione przez TUCZEMSKIEGO rozpatrują Władze Sądowe,wypisuje się wszystkiego tylko 1/33 klg.t.zn.8 razy mniej.

12/ Jedne i te same produkty każą uczniom zapisywać na przychód po cztery razy.

13/ Remont mieszkania Tuczemskiego przeprowadza się na rachunek internatu,również mieszkania jego znajomych.

14/ Za pobicie szkła w oknach ściąga się z seminarzystów po 5-10 zł.,a szkła wstawia się na rachunek państwowy.

15/ Do tego roku za internat pobierano 65 zł.od każdego ucznia a oprócz tego rząd wydawał sumy na światła,i opał i służbę, obecnie pobiera się 50 zł.i z tej sumy Tuczemski opłaca opał i światło, i żywność uczniów o wiele lepsza

16/ Przedstawiciele kontroli znaleźli w kancelarji Tuczemskiego stemple przez osoby,którzy zwyczajnie jak "swoi ludzie" podpisywali różne potrzebne Tuczem

skiego "rachuneczki". Osoby te są blacharz PUNSKI i właściciel pralni ROZBICKI.

17/ Nadużycie zrobione przez Tuczemskiego na szkodę Skarbu Państwa i rodzicom uczni sięgają w przybliżeniu minimalnem obliczeniu 100.000 zł.

Sprawa o tem wszystkiem znajduje się u władz sądowych.

Winę za wszystko to chciał złożyć Tuczemski na gospodynię internatu,której obowiązek każe to robić co jej mówi Tuczemski,i stróża Pipczenki,którego był zwolnił,jednak Kuratorjum na to nie zgodziło się. Teraz zastrasza Tuczemski uczni swoich zwolnieniem z Seminarjum,niedopuszczeniem do matury i t.d.i zmusza tych do podpisywania różnych sum na 100 - 150 zł.,których uczniowie w oczach nie widzieli. Takim sposobem zmusza uczniów mówić na korzyść jego u Sędzia Śledczego. Wobec tych powyższych rzeczy należałoby Tuczemskiego bezzwłocznie zwolnić ze stanowiska Rektora.

Wymaga od starszych seminarzystów by ci żenili się z temi "pannami",którymi on radzi. Jeżeli kto nie posłucha ,nie dopuszcza do matury. Jednego djakona, który nie chciał się ożenić z proponowaną mu dziewczyną,zerznął z matury i tylko dzięki przedstawicielowi Kuratorjum,djakon maturę otrzymał. Żył ten djakon bez posady dwa lata,a na prosbę o posadzie,Tuczemski jako członek Konsystorza powiedział mu "możesz iść do unji,Archirejem mnie nie zastraszaj,on wszystko wie, możesz iść zamiatać ulicę. Od tego djakona,gdy jeszcze był uczniem Tuczemski brał pokwitowania na 100 zł.,a wydawał mu 50 zł..To samo robił ze starym ledwo chodzącym księdzem mnichem b.księdzem Seminarjum. By ci nie skarżyli się Tuczemski mówił /zdania dosłowne/: "jeżeli ty pójdziesz do białorusów skarżyć się,ja ciebie w barani róg zagonię".

Żona Tuczemskiego do tego stopnia pozwala sobie z uczniami,że nawet starsze uczniowie na wspomnienie żony Tuczemskiego płomienią się i plują z odrazą. O tem jakie ona robi sceny erotyczne z uczniami mogliby powiedzieć Gurynowicz i Filipowicz,których Tuczemski dowiódł do innej wiary teologji. O tem i o innem napiszemy w następnym numerze.

Oto w jakich warunkach wychowuje się przyszły pasterz, który widzi takie błoto od pierwszej klasy. Nie Seminarjum to lecz szkoła bezbożności i komunizmu. Nawet żadne postępowania komunistyczne nie zrobią tego,co Tuczemski ze swoją żoną,przez swoje podłe postępowania, kalecząc młode duszy.

---

Red.wyd.J.BIELSKI